Бел XVIII (XVIII) 7442
Зок-1 11868

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі.

# МАЛАДЫ АРАТЫ

Орган ЦК ЛКСМБ.
Двухтыднёвая часопісь Сялянскай Моладзі.

Менск | № 3 | 1925 г.



## Фэст.

(*Апавяданьне*).

— Дзень добры ў хату!

— Здароў.

— Што ты, Мацьвей, хворы пасьля гэтага дзела, што валяешся на палатках, ці якое табе ліха?

— Не, якое хворы, дай сьвет. Нявыспаўся. Гэта жартачкі, цэлую ноч у гэтакай працы... Праходзь Тодар, садзіся.

— Сяду. Ну, як, удалася?

— Як сьпірытус.

— Ну?!

— Яй-б-бо...

— А мая, брат, хяровая.

— Ня можа быць.

— Верна. Абы пацягнуў трохі, дык у горле ўсё роўна, як дзеркачом шмаргануў.

— А мая-ж, брат, дык як цымус. На, адно, запробуй.

Мацьвей саскочыў з палатак, шавяльнуў свеёю рыжанькаю бародкаю, на хаду чухануў сваю шчуплую сьпіну і шпарка падбег да крывое, аблузанае шафы. Тодар—высокі, плячысты, вусаты—пашоў за ім.

Мацьвей нацадзіў з бутэлькі ў вышчарбленую шклянку і паднёс Тодару.

— На, адно, сьцебані.

Тодар разгладзіў вусы і паволі, баючыся капнуць на зямлю, выцягнуў да дна.

— Ну, што, як?

— А братка-ж ты мой, аж язык у гэтае ўцягло. Як агонь.

— Шукай яму, Тэкля, закусіць чаго-небудзь,— гукнуў Мацьвей жонцы,—нясі сала, то й я шклянку вып'ю.

— А няхай ты смалы напіся,—абазвалася Тэкля з мыцельніку,—няхай цябе чэрві разьядуць з тваім салам. Гаршка ня будзе чым засквары́ць, а ён што дзень, то ўсё баль адчыняе...

— Маўчы, бо як шыбану гэтаю бутэлькаю, дык нагамі накрыешся,—раўнуў Мацьвей,—на, Тодар, хоць яблыка глымзані, мелі сьвіньні есьці, то на, от, ты зьеш—усё роўна сьвіньням даем—урадзілі дзякуй богу... Дык, ка'аш, твая не ўдалася?

— Не. Чорт яе ведае, што ёй за трасца. Здаецца-ж гэтак стараўся, а вышла ліха, ёй хоць вон вылівай... Тры пуды, як сабаку пад гэтае ўправіў і дзела з канцом.

— А што рабіць думаеш?

— Ну, што-ж рабіць?!. Зноў гнаць буду. Як-жа можна абыйсьціся на фэст бяз гэтага. Як ні круці, а трэба. Такі-таж, бог даў, храмавы празьнік чым-жа яго памянуць і як-жа бацюшку сустрэць. Нялоўка...

— Ды яно верна, што нялоўка.

Тодар выцягнуў з кішэні капшук з самаroслаю табакаю. Патросшы ў руцэ, працягнуў Мацьвею.

— Свой?

— Але; поўну хату навешаў, аж вешалы гнуцца. Бяда толькі, што паперы няма, хоць ты гвалт крычы, няма з чаго скруціць.

— Паперы?! Вось чудзіла, ка'а паперы яму няма. Гэта-ж трэба! Цяперашнім сьветам на паперу гараваць? Трэба знаць сьмікалку і будзе папера. На гэта я ніколі не гарую.

— Ну?!.

— Яй-пр-ра! Я, брат, трохі сьмікаю, дзе, як і што. Ня дарам ужо шэсьць гадоў царкоўным папячыцелем служу; сам царкоўны стараста пад маю дудку скача, а з бацюшкам граю ў адну дудку, я яго, можна сказаць, правая рука. Мацьвей многазначна й весела маргнуў правым вокам Тодару.

— Ну дык, ка'аш, ты гэтую самую паперу зьмікіціў? Дзе-ж ты яе?..

— Дзе?! Я-ж табе кажу. А хата гэтая чытальня нашто?! Мой-жа Міколка адтуль і ня вылазіць, здружыўся з гэтымі канцамоламі, проста бяда... Ну й я туды зазіраю. Пасяджу, пасяджу трохі, а пасьля прыгледжуся, як нікога няма, ды ціхенька газэціну адну або дзьве сьцебану ды ў кішэню. А тады як чмыхану адтуль!.. Вось табе й папера. На, круці!

— І паволі, важна пачалі яны напаўняць хату густым дымам.

Увашоў Міколка.

— Дзе ты цягаешся?—наваліўся на яго Мацьвей—абы сьвята, дык хоць на бубен давай—згіне, як канфора.

— А што вам да гэтага?!

— Як-то што? Каб бацька ня меў права над сынам?!

— Нашто я вам тут патрэбен. Курыць з вамі?

— Што гэта вы там прыстройваеце гэткае,— запытаў Тодар у Міколкі,—што аж вучылішча зьвініць кожны дзень.

Гэта ў нас сельска - гаспадарчы гурток арганізаваўся, будзем спэктакль ставіць, суд над трох-



полкай. Будзе сход, мітынг. Агроном прыедзе, даклад будзе гаварыць. Хто хоча, усякі пойдзе ў нядзелю.

— У нядзелю?!—зьдзівіўся Тодар,—дык як-жа гэта можна, тады якраз фэст у нас. Гэта-ж бацюшка прыедзе, малебства правіць будзе, а вы нейкі сход, ды яшчэ міцін. Хто к вам пойдзе на гэты ваш міцін. Хто яго будзе слухаць гэтага вашага міціна, што ён там вам будзе плясьці?!.

— Ат,—дабавіў Мацьвей, — хай павар'яцеюць трохі. А мы вось адно свой міцін зробім—пройдзем пасьля малебства з абразамі па вуліцы, а пасьля, як усе добрыя людзі, і вып'ем, пагуляем.

У дзень фэсту яшчэ з самага раньня ўсе гатаваліся. Гатаваўся кожны пасвойму. Хлопцы сядзелі ў чытальні, праглядалі газэты й кніжкі, чакаючы агронома. А старыя чакалі „свайго агронома"—папа. Мала хто з старых мог спакойна ўседзець на адным месцы—мужчыны аціраліся каля печ, раз-по-разу зазіралі ў клеці, адкуль цягло самагонкаю. „Царкоўны папячыцель"—Мацьвей, ужо некалькі раз падыходзіў да шафы прыгінаўся перад ёю на зямлю, даставаў бутэльку й цягнуў з яе, задзёршы голаў.



Беларусы—сяляне.

— Ня можа дачакацца пары, ліха на яго,—злавала жонка,—усьпееш яшчэ, пачакай хаця, пакуль абедня кончыцца.

— Калі-ж нек, на яго ліха, жывот баліць,—вінавата абзываўся Мацьвей,—і чорт яго ведае, што яму сталася, ці то гэта я зьеў што-небудзь такое ўчора вечарам, ці чорт яго ведае.

— А каб ён нечага ўжо зарэзаў цябе, гэты твой жывот,—адказвала злосна Тэкля.

Мацьвей моўчкі адыходзіў ад шафы...

...Бацюшка прыехаў рана. На краю вёскі, у старой капліцы, служыў ён абедню, а бабы й мужчыны „маліліся".

Мужчыны вялі „сталыя" гаворкі. Напрыклад, у аднэй грамадзе аж лаяліся на ўвесь цьвінтар, спрачаючыся, колькі з пуда мукі можа выйсьці бутэлек самагонкі і колькі сартоў. П'яны Тодар даводзіў, што можа выйсьці тры добрыя сарты, калі гнаць маладзіком, а яго дзядзька Тарас, цярэбачы сівую бародку, пісклівым галаском крычаў Тодару ў самае вуха, што самагонку лепш гнаць не маладзіком а „сходнімі днямі"; прытым, як ні круці, усё роўна трох сартоў ня выйдзе, а калі й выйдзе, дык трэці сорт будзе, як вада, хоць у вочы лі, не пашкодзіць.

— Чаму гэта не пашкодзіць?—крычаў Тодар,—дурны ты, хоць і дзядзька мне, хадзем-жа ка мне; на тую практыку запрабуем—я табе ліну ў вочы, у мяне якраз трэці сорт ёсьць. Хадзем адно, хадзем. От паглядзіш, што ніводнага вока не астанецца, як ліну. Што ты мяне дурнем робіш!?

— Тодар ухваціўся й павалок за руку дзядзьку...

— Гвалт, людзі, ратуйце!—закрычаў стары, перапалохаўшыся,—вочы хоча высмаліць самагонкаю, а-я-яй!..

— Ціха, браткі,—закрычаў царкоўны стараста, выбегшы з цэркві,—не мяшайце бацюшку абедню правіць... Ціха... Тодар, калі напіўся, дык спаць ідзі.

— А ты адкуль гэтакі цэнтразыхер знашоўся,—закрычаў Тодар, кідаючыся з кулакамі на царкоўнага старасту,—ты думаеш тут вельмі вялікая штука?!. Я сам скора буду царкоўным старастам. Чуў?!.

Стараста шмыгануў назад у цэркаў.

Ён палажыў ёй рукі на голаў і сказаў: „на нядужныя рукі вазлажаць і здравыя будуць".

І ўжо ня зьнімаў з галавы хворай сваіх „вазложаных" рук пустымі—доўгімі, кручкаватымі пальцамі зграб ён з галавы хворай палатно і перадаў кульгаваму дзяку Алтароўскаму. Той згарнуў палатно і сунуў сабе пад паху. Працэсія рушыла далей.

Па дарозе бацюшка, пры дапамозе Мацьвея з Панцялеем, вылечыў мімаходам яшчэ некалькі баб ад галавы „цераз" вазлажэньне рук на нядужных і „нізлажэньне" іх назад з палатном.

Увашоўшы ў вёску, бацюшка крапіў вадою кожную хату й гаспадара з сям'ёю, а гаспадыня валакла на плячох у мяшку жыта бацюшку. Жыта для бацюшкі зьбіраў стары Craig... Янaчка—памоцнік царкоўнага старасты. Ён меў большы чын за Мацьвея, простага „царкоўнага папячыцеля", і рызыкоўна з свайго воза паглядаў на яго, як той пацеў, цягаючы з Панцялеем цяжкі абраз. Кульгавы-ж дзяк Алтароўскі, сьпяваючы, пільна падглядаў за Янaчкам, каб той часамі ня пхнуў, як небудзь сабе запазуху кілбасу, якую падносіла часта гаспадыня к возу.

Каля кожнае хаты бацюшка соўваў гаспадару ў губы крыжам, а гаспадар падпіхаў пад крыж дзяцей, каравымі пальцамі абціраючы ім губы ад смаркачоў. Дзеці палохаліся блішчастае папоўскае рызы.

— Дурное, гэта-ж бацюшка,—угаварваў дзіця бацька.

— Ні хацу-у,-- чуўся дзіцячы крык.

Янaчка з гэнэральскім выглядам азіраўся па бакох на сваім возе, моцна цмокаў на каня й важна пад'яжджаў далей.

Некалі людзі пацелі, жнучы збожжа. Цяпер аднаму чалавеку ўраджай прышоўся гатовым—

„жалася“ чыстае зярнё, без саломы, малаціць ня трэба было. І жалася так багата, што скора аж конь ня мог ужо цягнуць поўнага воза, і Янчку прышлося злазіць, каб хоць трохі было лягчэй каню.

„Жніво“ йшло далей.

А радам з гэтым падыходзілі й дажынкі. І ўжо гатаваліся, каб добра правясьці іх.

Гэта было ў Мацьвеевай хаце. Арудаваў там Тодар—блізкі прыяцель бацюшкі. Ён быў назначан „старшым маханікам“ па ўтварэньню гэтых „дажынак“. Падрыхтоўка да гэтага была для яго чыстая люботa. Тупаючы каля стала, ён раз-по-разу перакідаў у рот сабе чаркі і камандаваў Мацьвеевай жонцы—Тэклі.

— А парасят насмажылі?

— Ня было,-- адказвала Тэкля, носячы на стол кілбасы і пірагі.

Тодар прымаў выгляд начальніка й крычаў:

— Як гэта не было?! Як-жа мы цяпер бацюшку стрэнем без парасяці. Парася й бацюшка заўсёды павінны быць разам.

Язык яго пачынаў заплятацца, думкі блыталіся, а ён усё яшчэ не пакідаў смакаваць з бутэлькі. І ўжо саўсім п'яны стрэў ён бацюшку.

Разам з бацюшкам увашлі ў хату сам гаспадар хаты—Мацьвей, утомлены ад працы з образам на вуліцы, чалавек пяць розных царкоўных прычэтнікаў, дзяк Алтароўскі й нарэшце Янчка.

Пачалі памінаць „ураджай“. Ня ўсьпеў яшчэ бацюшка як сьледуе ўмасьціцца за сталом, як к яму ўжо лез Тодар, дзержачы дзьве чаркі ў руцэ.

— Я хачу з бацюшкам першы выпіць,—роў ён хрыплым, п'яным басам.

Бацюшка чокнуўся з ім і выпіў.

— Я з бацюшкам, можна сказаць, адным словам, гэтая, і больш нічога,—крычаў Тодар і лез з бацюшкам цалавацца.

Поп, як мог, бараніўся.

Дзяк Алтароўскі, адставіўшы на палавіну хаты сваю крывую нагу, накінуўся на кілбасы. Яму зазіраў у вочы Янчка, салодзенька сьмяючыся й гаворачы яму ў руку (з бацюшкам Янчка пакуль-што ня сьмеў яшчэ быць так проста).

Пасьля трэцяе чаркі Янчка пасьмялеў і падсеў бліжэй да бацюшкі.

Дзякуй богу, сабралі сяганьня здорава, —загаварыў ён да бацюшкі, нагнуўшыся ў яго пад локцем,—гэта-ж так напакавалі воз, што аж конь ня ўзяў.

— Ня лішне сабраў-бы, каб я образа не насіў,—пакрыўджаным, злосна-п'яным голасам абазваўся Мацьвей.

— Ня так яшчэ будзем зьбіраць,—зароў Тодар, грукнуўшы кулаком аб стол і адапхнуўшы ад бацюшкі Янчку,—вось я адно стану царкоўным старастам, ня так тады дзела пойдзе.

— Верна,—абазваўся падвыпіўшы бацюшка,—ня так яшчэ зьбіраць будзем, наша яшчэ наперадзе...

— Н-наша на-пер-радзе, г-гуляй, р-р-раб'ят-та!—закрычаў Тодар, зноў грунуўшы кулаком па стале,—хто сказаў так, як бацюшка думаў, як ні я?! Верна?!

— Тхор ты сьвінячы!—вылепеталі разам Янчка з Мацьвеем,—што ты сказаць можаш добрае?!

Тодар рынуўся з-за стала і схваціў Янчку за нос.

— Гвалт, браткі, ратуйце, нос адкруціць,—заенчыў Янчка,—бацюшка, пагібаю!..

Бацюшка хваціў Тодара за рукі, стараючыся адарваць іх ад Янчкавага носа. Тодар павалок за сабою на сярэдзіну хаты Янчку разам з бацюшкам.

— Браток Тодар, апомніся,—галасіў бацюшка.

— Мацьвей, братка, заступіся,—енчыў Янчка,—прападаю за грош.

— Я пакаж-жу, хто я такі ёсьць,—роў Тодар,—я царкоўны стараста... Так ці не?!.

— Так, так; пусьці адно,—галасіў бацюшка.

— А што, чыё бярэ,—не пакідаў раўці Тодар, валочачы па хаце бацюшку й Янчку.

Мацьвей кінуўся бараніць Янчку, які цягаўся па хаце за Тодаравымі каравымі пальцамі, сьціснуўшымі яго нос.

І ўсе яны кучаю мітусіліся па хаце.

На вуліцы тады было поўна людзей, але ўсё старых. Ужо скончыўся „сьвяточны абед“, і ўсе павыходзілі „гуляць“. Моладзі-ж было відно мала—быў тады сход, на якім агроном рабіў даклад аб пераходзе да шматпольля і амаль ня ўся моладзь была там.

На вуліцы відно было толькі некалькі хлопцаў, у том ліку два самыя забіякі—Мікалай Вяртляк і Павал Цырбун. Яны валтузілі пасярод вуліцы гарманістага Ваньку Юстынавага.

— Ванька, грай ойру,—крычаў Мікалай Вяртляк.

— Вальца грай, сукін сын!—наскакаў на беднага Ваньку Павал Цырбун.

— Ойру я табе кажу!..

— Я табе пакажу ойру! Грай вальца, япрук сьвінячы!



Вёска ў сьвята.

Перапалоханы Ванька пачынаў граць вальца.

— Стой!—хватаў яго за грудзі Мікалай Вяртляк,—даеш ойру!

Ванька, баязьліва пагледаючы на Паўла Цырбуна, нясьмела пачынаў рыпаць ойру, а Павал з кулакамі кідаўся на Мікалая.

І тады хадуном захадзіў Мацьвееў двор і вуліца каля яго хаты. Мітусіліся ў паветры кулакі, ухалі „раб'ята“, б'ючы „няпрыяцельскія“ сьпіны—хто каго.

Тодар стаяў на отшыбе, шукаючы вачыма сабе пары для бойкі. Якраз здарылася, што яго дзядзька — стары Тарас—усунуў голаў у самы гурт забіякаў, з вялікаю цікавасьцю гледзячы на бойку. Ён перажываў гэтую бойку усімі сваімі пачуцьцямі, успамінаючы пры гэтым свае маладыя годы. Тодар зразу зьмеціў, што дзядзька стаіць „бяз працы“ із дзікаю радасьцю падбег да яго. Падняўшы кулак, ён з усяго размаху лупянуў дзядзьку ў нос.

—Тодарка, за што-ж ты мяне,—заенчыў дзядзька Тарас.

— За што?—раўнуў Тодар,—людзі б'юцца, а я дык што?!.

Акрываўлены дзядзька драпануў скоранька да дому.

А бойка тымчасам паволі заціхала.

Дзяк Алтароўскі, задумаўшы памагчы бацюшку ўстаць, пераступіў цераз яго, але зачапіўся сваёю крывою нагою за бацюшкаву простую.

І ня вытрымала буйная галава моцнага хмелю. Упаў там дзяк Алтароўскі, дзе стаяў, ды так і астаўся ляжаць упоперак на бацюшку, ня маючы ўжо сіл падняцца.

Надышоў вечар. Узышоў месяц і асьвяціў „поле брані“, укрытае „паўшымі ваякамі, ваеначальнікамі і пастырам“.

Па ўсёй вуліцы шаталіся людзі, як цені, многія сядзелі пад платамі, але большасьць ляжала ўпокат. І толькі Мікалай Вяртляк і Павал Цырбун варушыліся, адбіраючы адзін у аднаго шворан.

З-за крайняе хаты вынырнула куча малых хлопцаў. Яны прыпыніліся, пазнаючы, хто і як зваліўся на зямлю.

Пазнаваалі:

— Тодар.

— Поп.

— Дзяк.

— Мацьвей Небарак.

— Яначка.

Тодар сярдзіта падняў голаву й тут-жа зноў зваліўся, прабарматаўшы нешта баявое.

— Браткі,—закрычалі хлопцы, — Тодар варушыцца.

— Каму Тодар, а табе дзядзька, смаркач ты,—зарыпеў Тодар,—я царкоўны стар-раста-г-х!..

— Браткі, у Тодара чын пабольшаў,—закрычалі хлопцы і тут-жа, як-бы згаварыўшыся, гранулі:

„Ехаў з ярманкі ухар купец,
Ухар купец—Тодар маладзец“.

Стой, давайце бацюшку „трапар“ засьпяваем,—гукнуў голас,—слухайце.

„П'яны поп ляжыць, як сноп,
„П'яны дзяк ляжыць, як, гляк,
„А Мацьвей, як парася.
„Вось і песенька уся!

Хлопцы гранулі песьню спачатку.

Пачуўшы ў песьні сваё імя, Мацьвей неяк узвалокся на ногі. Хлопцы, абарваўшы песьню, сыпанулі ўцякаць. Мацьвей, не расчомаўшы ў чым дзела, падышоў, шатаючыся ў бакі, да Мікалая й Паўла, якія ўсё яшчэ адбіралі адзін у аднаго шворан.

—Ты што?!—гукнулі Мацьвею Мікалай і Павал.

— Вы што, сьпяваць пра мяне?!—залепятаў Мацьвей, растапырыўшы рукі, каб не паваліцца,— вы...

— Н-на!—ухнуў Мікалай Вяртляк, апускаючы шворан Мацьвею на голаў.

Мацьвей, як сноп, рухнуў на зямлю. Згубіўшы шворан, Мікалай Вяртляк і Павал Цырбун разашліся і хутка пападалі пад плотам. На вуліцы стала ціха.

А ў Мацьвеевай хаце было вось што. Мужчыны, якія асталіся там, не пакідалі баляваць. Яны папілі ўсю самагонку, запалілі агонь і пачалі шукаць больш. У клеці не нашлі. Не нашлі і ў сундуку ў сенцах і палезьлі шукаць на гору. Там кінулі агонь у кастрыцу і хутка страха Мацьвеевай хаты запалала агнём.

Тады якраз у школе кончыўся мітынг. Прашлі два даклады агронома аб шматпольлі і аб палепшаньні насеньня. Кончыўся й спэктакль. Моладзь ішла да дому, гаворачы, як-бы гэта падняць гаспадарку, зажыць лепш...

Падышоўшы бліжэй, пачалі пазнаваць п'яных. Мацьвея, з разьбітаю галавою, знашлі пад плотам. Унясьлі яго ў хату; паслалі ў мястэчка па доктара і, прамыўшы рану, прылажылі да яе халодны кампрэс.

**Сусед—Вясёлы.**

## Зазванеце!..

Зазванеце, зоры, па-над кручай,
хай ня журыцца газьніцца бляскам,
хай сыгнал электрыкі бліскучай
мільгане ў лучнік сялянскі.

Хай-жа тут—па хатах саламяных
на калені стане бляск сталічны,
і няхай у лесе на паляне
зьвер абліжа яго твар-абліччa.

Хай-жа ў кожным сельсавеце
заляскоча клёкатам дынама,
і няхай ў клянова-медным вецці
пранясецца век з стальнымі днямі.

Хай-жа бразнуць радасьці падковы
ў дынамічна-звонным гоне:
я ў вачох вясёлкава-вясковых
сказ аб гэтым прачытаў сягоньня.

І мяне ўжо боязь ня трывожыць.
Хай машынай вёска весяліцца.
Селянін ня шмыгне ў куст, як вожык,
калі ўчуе яе лёскат ў лісьці.

Не баіцца ўжо ён больш матора,—
уцякаць ня хоча ў вербалозы.
Так было, было яшчэ учора,
а сягоньня трактар дай ў палосы.

Дык званеце, зоры, па-над кручай,
хай ня журыцца газьніца бляскам,
хай сыгнал электрыкі бліскучай
мільгане ў лучнік сялянскі.

**Язэп Пушча.**

Маладняк

## Усебеларускае аб'яданьне поэтаў і пісьменьнікаў.

У лістадзе 1923 году некалькі таварышоў маладых поэтаў сабраліся ў невялічкім пакоіку ЦК ЛКСМБ і пад сьвет не электрычнасьці, а месяца, які так старанна сьвяціў праз вакно, організаваліся ў групу, якуя назвалі *„Маладняк“*.

Гэта група—6 чалавек: Чарот, Пушча, Вольны, Бабарэка, Александровіч, Дудар.

Зьбіраліся на сходы, зачытвалі свае творы, разьбіралі іх, выпраўлялі абмылкі, недахваты і тым верш ці поэма, якая чыталася на сходзе, становіцца куды лепшым творам—апрацованым, вытрыманым, мастацкім.

У гэту групу далучаліся яшчэ й яшчэ хлапцы і так гэта група ўзмацнялася і пашыралася...

Маладнякоўцы ня толькі працавалі ў Менску,—яны з сваімі задачамі, сваёй творчасьцю знаёмілі сялян і рабочых дзякуючы выездам.

Маладняк быў у такіх гарадох, як Віцебск, Магілёў, Полацк, Калінінщчына, Гомель, Бабруйск, Чэрвень і інш.

Цяпер маладнякоўцаў ужо ня сем чалавек, а больш як 300.

„Маладняк“ мае свае філіі (аддзяленьні) ў Віцебску, Магілёве, Полацку, Гомлі, Бабруйску, Барысаве і ў Менску. Кіруе ўсёй гэтай працай Цэнтральнае Бюро.

Ня так даўно адбыўся пленум ЦБ (пашыранае пасяджэньне), на якім вырашалі сталы плян працы, выбралі новае ЦБ, якому й даручылі весьці падрыхтоўчую працу да скліканьня Ўсебеларускага Маладнякоўскага Зьезду.

Аб творчасьці маладнякоўцаў дадзем у чарговым нумары; цяпер толькі адзначым, якія вышлі маладнякоўскія зборнікі:

„Комсамольская Нота“—вершы, А. Вольны, А. Александровіч.
„Веснаход“—апавяданьні, М. Чарот.
„Беларусь бунтарская“—верш, А. Дудар.
„У віры жыцьця“—апавяданьні, М. Зарэцкі.
„Два“—аповесьць, А. Вольны.
„Па беларускім бруку“—вершы, А. Александровіч.

## Майскае.

На грудзёх хмарак блакітных
Усьміхнулася сонца Маем.
Ну, дык, песьня, чаго маўчыш ты?
Гымны сонцу давай, засьпяваем!

Векавой павуцінай абвіты
Ціха шэпча дзядуля-гай.
А у сэрцы маім, паглядзі ты,
Заліваецца песьняю Май.

Раніцай сонца ўсьміхаецца
Золатам нас абвіе.
Кветкамі поле ўбіраецца,
Першамайскую песьню пяе.

**С. Дарожны.**



**ЦБ „Маладняка да пленуму** *Стаяць*: М. Зарэцкі, А. Гурло. *Сядзяць*: Н. Чарнушэвіч, А. Бабарэка, А. Вольны, Я. Пушча, А. Александровіч.



**Прэзыдыум Менскай філіі:** П. Трус, Е. Пфляўмбаум, А. Александровіч (старшыня) і К. Чорны.

## Пановаму-вясноваму.

То ня ў полі рунь зялёная
З ветрыкамя ціхім цалуецца.
Гэта песьня шуміць раздольная,
Радасьцю буйнай хвалюецца.

Вёска жыве пановаму—
Богу-папу ня моліцца.
Звонкімі днямівясновымі
Наперад ідзе, комсамоліцца.

Шумлівае поле, прывольнае,
Не шчаціміцца больш палоскамі,
Падружыла з сыстэмай шматпольнаю,
І песьню пяе над вёскаю.

Горад з вёскаю справаў заручыны,
Нашай вёсцы трэба электрыка.
Хлопцы, сьпяем звонкагучную!
Шумі сасоньнікам, ветрык!

**Сашка Звонак.**



# ЛЕНІНСКАЯ КОМСАМОЛІЯ.

## Політычна-грамадзкая праца вясковых комсамольцаў.

Паўторныя перавыбары саветаў у некаторых раёнах яшчэ раз падкрэсьлілі правільнасьць тае лініі, якая была ўзята кіруючымі органамі саюзу ў пытаньнях масавай работы на вёсцы.

Што далі нам апошнія перавыбары? Там, дзе ячэйкі праводзілі правільную лінію ў масавай рабоце, процант комсамольцаў—удзельнікаў у гэтай рабоце—ня зьменшыўся, а наадварот—вырас і вырас за лік перадавых працаўнікоў (старшынь і сакратароў). Такі факт мы маем у Жлобіне, Талочыне і шмат іншых мясцох. Але агульны лік комсамольцаў у с./с. зьменшыўся. Галоўнае нашай лініі ў грамадзянскай рабоце на бліжэйшы час хаваецца ў тым, каб на падставе агульнай лініі партыі разьвіваць агульна-грамадзкую працу на вёсцы і самім быць грамадзянскім працаўнікомі, а не камандзірам. Гэта трэба помніць.

Грамадзянская праца комсамольскай ячэйкі павінна выяўляцца ў актыўнай рабоце ў гушчах насельніцтва, у грамадзянскіх організацыях. А ўсё гэта паказвае і будзе паказваць нам на тыя шляхі, пры дапамозе якіх комсамольцы адшукаюць форму барацьбы за новую вёску—за вёску з высокім экономічна-культурным роўнем; трэба старацца, каб вёска гэта зразумела і каб яна падтрымала.

Ня раз папярэджваў нас Уладзімер Ільліч, што комунізм рукамі адных комуністых ня збудуем, і вялікую абмылку робяць тыя комсамольцы, якія думаюць, што рэволюцыйным духам кучкі комсамольцаў у вёсцы можна перабудаваць вёску. Пакуль усё сялянства ня стане на гэты шлях—мы нічога ня зробім. Адсюль выплываюць тыя практычныя задачы, якія стаяць перад кожнай вясковай комсамольскай ячэйкай.

Многія вясковыя комсамольцы пры пытаньні аб тым, які яны прымаюць удзел у жыцьці коопэрацыі, сельсавету і г. д., адказваюць: „У нас няма ў праўленьні свайго прадстаўніка, вось чаму мы нічога й ня робім“. Справа не ў прадстаўніку. Бязумоўна, добра мець у праўленьні ці сельсавеце комсамольца, але-ж калі няма, дык нічога ня зробіш, і сілком яго туды піхнуць ня варта. Патрэбна даказаць селяніну сваю працаздольнасьць; толькі тады, калі ён выбера комсамольца, будзем упэўнены, што гэты комсамолец заваюе пашану і будзе працаваць. Тут такі вывад—трэба адмовіцца ад усякага роду прадстаўніцтва. Трэба заваяваць пашану, працуючы ў нізох, і тады сялянства само цябе абярэ. Гэта датычыцца ўсіх савецкіх і грамадзянскіх устаноў вёскі.

Другое пытаньне—гэта пытаньне, якую ролю комсамолец павінен адыграць на вёсцы, як гаспадар. Селянін у першую чаргу разважае аб працаўніку ня з пункту погляду яго красамоўства і ўменьня гарланіць, а пашанаю ў яго карыстаецца чалавек гаспадарчы.

Для правільнага правядзеньня гэтай работы трэба, асабліва вясковаму актыву, добра вывучыць мясцовыя ўмовы, быць знаёмым з пытаньнем політыкі і той працаю, якую праводзіць партыя і Савецкая ўлада на вёсцы.

Д. Ешчын.

# ПА ЯЧЭЙКАХ ЛЕНІНСКАГА КОМСАМОЛУ.

## Фізычнае выхаваньне павінна стаць на належнае месца.

*(Бешанковіцкая яч. ЛКСМБ, Віцебшчына).*

Па допісах комсамольскіх часопісаў відаць, што па ячэйках растуць спортгурткі, як вясною грыбы ў лесе, а ў нашай ячэйцы, ня гледзячы і на тое, што вясеньняе сонца паліць — фізычнае выхаваньне непрабудна сьпіць.

У мінулым годзе на адным з сваіх сходаў ячэйка пастанавіла організаваць спорт-гурток і зараз-жа выдзеліць кіраўніка, які-б рупіў аб дзейнасьці гуртка, але гэта пастанова засталася там, дзе яе ўпісалі, аж да сёньнешняга дню.

А пры жаданьні можна шмат чаго зрабіць у гэтай галіне. Ячэйка наша досыць вялікая: налічвае ў сябе 64 комсамольцаў, з іх шмат хто ходзіць без усялякае справы і жадае займацца па фізычныму выхаваньню.

Бешанковіцкая ячэйка, вясна на дварэ, хутчэй будуй турнік і іншыя прылады і будзі сваё фізычнае выхаваньне!

Ян.

## Да ўвагі Самахвалавіцкага райкому.

*(Грычынская яч., Самахвалавіцкага р., Меншчына).*

У кастрычніку 1924 г. ў вёсцы Грычына організавалася комсамольская ячэйка, якая зараз налічвае 13 сяброў.

Спачатку праца пашла досыць добра. Організаваныя пры школе гурткі драматычны і харавы перашлі ў рукі ячэйкі. Уся праца праводзілася ў хаўрусе з настаўнікам вясковай школы. У далейшым ячэйка стала ўзыходзіць на неправідловы шлях, і ўсе гурткі, якія меліся пры ячэйцы, замкнуліся, адгарадзіліся ад вясковай моладзі і не стараліся ўцягнуць яе ў свае рады.

Гурток політыкі нічога ня робіць.

Кіраўніцтва гэтай ячэйкаю патрэбна ды яшчэ і добрае.

Самахвалавіцкаму раённаму комітэту комсамолу над гэтым патрэбна падумаць.

Хвалей К. Д.

## Коргурток—на паперы.

*(Крычаўская ячэйка ЛКСМБ, Калініншчына).*

Комсамольцы нашай ячэйкі вельмі зацікавіліся корэспондэнцкай справай, і яшчэ летам мінулага году організавалі корэспондэнцкі гурток. Думалася-б, што і добра, але-ж гэты гурток як організаваўся ды запісалі яго ў пратакол, дык яго праца і па сагоньня там.

Актыў ячэйкі глядзіць на гэтую справу заплюшчанымі вачмі.

Час працу коргуртка з паперы перанесьці на справу!

Яшка.

## Мацуем сувязь з беспартыйнаю моладзьдзю.

*(Дукорская ячэйка ЛКСМБ, Сьмілавіцкага раёну, Меншчына).*

На адным агульным сходзе ячэйкі сакратар т. Куніцкі прапанаваў, каб у далейшым рабіць комсамольскія сходы і ў тых вёсках Дукорскага сельсавету, якія знаходзяцца за 5 і больш таго вёрст ад ячэйкі.

— Пры такіх умовах, — кажа Куніцкі, — мы зможам добра здружыцца з вясковаю беспартыйнаю моладзьдзю.

Ячэйка гэту прапанову падтрымала, і чарговы сход назначыла, каб адбыўся ў вёсцы Жораўка, якая знаходзіцца за 5 вёрст ад ячэйкі...

Аднаго разу, сьвяточным днём, Дукорская ячэйка стройнымі радамі, з вясёлымі песьнямі ўвашла ў Жораўку. Вясковая моладзь, пачуўшы ўсё гэта, хутка сабралася ў будынак школы, дзе ў хуткім часе адчыніўся і сход. На сход прышло больш як 150 чал. моладзі, з якіх большая частка дзяўчат.

Былі заслуханы такія даклады: „Дзяўчына і ЛКСМБ“ і „Праца вясковай моладзі“. У канцы дакладаў было шмат запытаньняў.

Сход прашоў вельмі цікава. Жораўская моладзь прасіла Дукорскую ячэйку, каб яна прыняла над ёю шэфства і дапамагала літаратураю.

Жораўскі комсамолец.

# ГОРАД.

## Шкляны завод „Пролетары“.

*(Менск).*

Усім вядома, што імпэрыялістычная і грамадзянская вайна разбурыла нашу прамысловасьць.

Але дружны колектыў рабочых змог аднавіць яе нанова. Ізноў пачалі працаваць фабрыкі і заводы.

Гэта самае было і з нашым заводам.

У 1920 г., калі толькі пачала заміраць грамадзянская вайна, рабочыя з вайсковага фронту пачалі пераходзіць на фронт гаспадарчы. Рабочыя шклянога заводу парашылі таксама пусьціць у ход свой завод. Цяжка гэта была зрабіць, але пад вялікім напружаньнем рабочых завод зноў пачаў працаваць. Спачатку на ім працавала 60 асоб. Потым праца усё павялічвалася, і цяпер ужо працуе 270 рабочых, і з іх 60 чалавек моладзі. Моладзь прыходзіць сюды, як кажуць: „з рукамі ды ахвотаю“. Галоўная іх мэта навучыцца працаваць, вывучыць шкляную справу.

Дзеля гэтага на кожных 3-4 падросткі маецца адзін майстар, які іх і вучыць.

Чаму-ж іх тут навучаюць?



Від выдуваньня бутэлькі.

А вось: зрабіць бутэльку, растапіць масу і г. д.

Мабыць ніхто з вас ня ведае, што шкло ці, напрыклад, шклянку, з якое вы п‘еце гарбату, робіцца з пяску. Да яго яшчэ дабаўляюць крэйду, соду і сулефат.

Усё гэта зьмешваюць і растапліваюць у вельмі гарачых печах. Потым у гэтую жыжку абмочваюць кончык трубкі а выняўшы—на ёй застаецца гэтая жыжа. Далей цераз трубку надуваюць у яе паветра і хутка ўстаўляюць у форму. А ўжо глядзячы па форме атрымоўваюцца: бутэлька, шклянка, кубак і г. д.

Вось гэтай справе і вучыцца моладзь на шкляным заводзе. Праца гэтая цяжкая, і загэтым суткі падзяляюцца на тры зьмены.



Від выдуваньня баначкі.

Апрача гэтае працы моладзь вядзе і культурную працу. Яна ўся аб‘яднана ў комсамольскую ячэйку, якая і кіруе гэтай працай.

Спачатку ў ячэйцы было толькі 8 асоб. Пачалі зьбірацца, праводзіць гутаркі. Зацікавіла гэта ўсіх. Адсюль і пашло.

Цяпер у ячэйцы 32 чалавекі.

Ячэйку ўсе любяць, затым што яна бліжэй, чым хто іншы, да жыцьця моладзі.

Што робіцца ў ячэйцы?

Перш-на-перш політычная апрацоўка; для гэтага ёсьць політ-гурткі, газэт-гурткі і г. д.

Шчыра працуюць комсамольцы. Адзін з іх старшыня культурнай комісіі, другі ў завадзкім комітэце і так далей.



Формы вырабу на заводзе.

Ячэйка трымае шэфства над саўхозам „Профінтэрн“ (Лагойскага раёну). К падшэфным выяжджаюць часта, вязуць ім кнігі, газэты, праводзяць лекцыі, даклады.

**Якім Першамайскі.**

# Барацьба за новую вёску.

## Сейце травы на полі.

### Канюшына, віка і пялюшка.

#### 1. Канюшына.

Канюшына бывае некалькіх гатункаў: чырвоная, белая, швэцкая. Залежна ад таго, як ёю маюць карыстацца, сеюць чыстую ці з прымешкай другіх траў і гатункаў канюшыны.

*Чырвоная канюшына* патрабуе добрага грунту і глыбокага і пэўную колькасьць вапны ў глебе й падглебе; таксама не павінна ў ёй бракаваць вільгаці, дзеля таго што яна вельмі сушыць зямлю. На грунтох сухіх, жвіраватых, на сухіх пяскох яна не ўдаецца; таксама дрэнна расьце на грунтох мокрых. Найлепшы ўраджай можна атрымаць, калі яе пасеяць на суглінках і на глінах, але ня дрэнна расьце й на супескавых глебах, асабліва калі яны ў падглебе маюць мар́гель.

Папярэдняй расьлінай для канюшыны можа быць бульба ці караньплоды, пасьля каторых ідзе ярына: ячмень, авёс, яравая пшаніца й жыта. Канюшыну ўсяваюць у ярыну пасьля пасеву збожжа, калі яно ўжо забаранована.

Вельмі часта сеюць канюшыну ў азімае збожжа. Найлепш у такім выпадку сеяць у жыта, якое мае ня так густое лісьце, як пшаніца, і раней зьбіраецца з поля. Пры пасеве ў азімым збожжы пасьля пасеву належыць прыкрыць валакушай, а пасьля звальцаваць. У азімае збожжа канюшыну патрэбна сеяць як можна раней увесну, калі толькі можна ўзыйсьці на поле, яшчэ па мерзлай зямлі.

Насеньня канюшыны высяваюць на 1 дзесяціну ад 40 да 50 фунтаў, залежна ад глебы: на глінах і суглінках менш, на супескавых і пескавых—больш. У азімае збожжа высяваць больш, у ярыну менш.

*Белая й швэцкая канюшына.* Апрача чырвонай для пасеву ўжываюць яшчэ белую і швэцкую канюшыну. Першую ўжываюць для пасеву ў мяшанках з другімі канюшынамі, калі канюшына будзе карыстацца ў другім ці трэцім годзе, як пасьбішча. Вельмі добрая для падсеву на сенажаці і на пасьбішчы, добра расьце на грунтох сухіх. Швэцкая канюшына больш прыгодна для пасеву на мокрых нізкіх грунтох. Сеюць яе адну ці разам з чырвонай і белай. Пасеяная адна—дае толькі адзін добры ўраджай, другі раз ужо адрастае горш, але трываць можа на адным месцы некалькі год.

На глебах, дзе канюшына ня вельмі добра ўдаецца, лепей замест самой канюшыны сеяць мяшанку яе з другімі травамі, напрыклад, з цімафейкай, асабліва калі апошні год будзе канюшына карыстацца, як пасьбішча.

У такім выпадку высяваюць на 1 дзесяціну чырвонае канюшыны 30 фун., белае 10 фун. і цімафейкі 10 фун., або на больш вільготных грунтох: чырвонае канюшыны 20 фун., швэцкае 20 фун. і белае 10 фун. Перад пасевам абавязкова належыць спраўдзіць усхожасьць канюшыны. Купляць насеньне трэба толькі з вядомых пунктаў, найлепш у с.-г. коопэрацыі ці ў акруговых складах зямельнага аддзелу.

#### 2. Яравая віка і пялюшка.

Ніводзін кавалак поля не павінен ляжаць адлогам (папарам). Іншыя гаспадары пакідаюць папар для пасьбы быдла. Малазямельны гаспадар не павінен сабе дазваляць гэткай роскашы, як трыманьне папару для пасьбішча.

Лепш пасеяць што-небудзь на такім кавалку поля і заўсёды будзеце мець больш корму, чымся з папару. Калі-ж ужо абавязкова хочаце мець пасьбішча, то найлепш у такім выпадку аставіць кавалак канюшыны з цімафейкай.

*Чорны папар.* Гэткі папар мы яшчэ з восені заворваем і пасьля ўвесь час яго абрабляем то плугам, то бараной, то пружыноўкай. Праўда, такі папар дадае зямлі новай ураджайнасьці, але зьяўляецца вельмі каштоўным для сялянскай гаспадаркі. Папар-жа, які мы бачым у нашых вёсках і на якім быдла ходзіць часта па надмокшай ральлі і ўмінае яе цьвёрда, на якім толькі расьце пустазельле, ніякай карысьці ня прыносіць гаспадару, апрача шкоды.

Але можна засяваць у папары такія расьліны, якія ня толькі ня ўбожаць зямлі, а яшчэ яе зацяняюць ад сонца і высыханьня. Да такіх расьлін належаць *віка і пялюшка*, якія сеюць у мяшанках з другімі расьлінамі для атрыманьня зялёнае масы для корму жывёле альбо на зялёнае ўгнаеньне папару.

Калі віку ці пялюшку думаюць сеяць на зярно, то ў тым выпадку належыць яе сеяць не ў папары, а ў яравым полі, дзеля таго што яна вельмі позна пасьпявае.

На дзесяціну высяваюць вікі ці пялюшкі каля 8 пуд. і ў прымешку аўсу $3^1/_2$-4 пуды. Авёс дадаецца для падтрыманьня вікі ці пялюшкі, якая бяз гэтага ад споду, лежачы на зямлі, вельмі псуецца. Пры пасеве вікі на зярно аўсу дадаюць менш—$2^1/_2$-3 пуды. Патрэбна адзначыць, што віка расьце добра на глінах і суглінках, а пялюшку можна сеяць і на супескавых і нават пескавых глебах. Пры засеве на зялёны корм засяваюць не адразу ўвесь кавалак, прызначаны для пасеву, а ў некалькі раз, цераз 2-3 тыдні, каб мець заўсёды сьвежы зялёны корм для быдла. Першы засеў належыць зрабіць як мага раней. Засяваюць іх так, як і ўсякую ярыну.

Ул. Даведчык.



## Пад гармонік

**в е с я л е й**



Не пайду я за буржуя
Замуж за багатага.
Жыць у цемры не хачу я—
Выпішу „Аратага“.

Не званеце вы, званы,—
Я ўжо хлопец ня дурны:
У рай нябесны не пайду я—
Тут мы лепшы пабудуем.

За ядловец я ўзялася,
Дык ядловец колецца;
Пакахала-б я Міхася,
Дык ён богу моліцца.

Не пайду ў царкву маліцца—
На даклад пайду я ў клюб;
Калі прыдзецца жаніцца,
Ў сельсавеце вазьму шлюб.

Табе, мусі быць, Лявонка,
Мілей жонкі самагонка?
З ёй гуляеш ты ўсю ноч,
Як ня кінеш—пайду проч.

Ой, мілей ты, жоначка,
Мне, як самагоначка,—
Як нап'юся—гані вон
І мяне і самагон.

**К—ва.**

Ой ты, Янка, зухаваты,
Дай цябе я пацалую,
Толькі выпішы „Араты“
На нядзелю, на другую.

Ходзіць козырам Яўхім,
Нельга прыступіцца.
Запішуся ў „Дабрахім“,
Ён мне ўночы сьніцца.

Ўжо растаў на рэчцы лёд,
Стала ўсюды суха.
Прыляціць к нам самалёт,—
Чуе маё вуха.

Эх, прыслалі к нам вагон
Зусім новенькіх машын.
Кіну піць я самагон,
Куплю плуг і лемяшы.

Атрымалі ўсе надзел
Бяз ніякай касы.
Ў нашай вёсцы жэн'аддзел
Не марнуе часу.

Эх, люблю хадзіць у клюб,
Там народу многа.
Я ўзяла савецкі шлюб
І ня веру ў бога.

**П—а.**

Дзед балота касіў,
Баба жала грэчку.
Дзед „Аратага“ купіў,
Палажыў ў запечку.
Баба кончыла жаць
І прышла да хаты.
Стала баба чытаць
„Малады Араты“.
Артыкулы прачытала,
Што надрукаваны,
А назаўтра расказала
Ўсім суседкам зраньня.
— Ах, сястрыцы, маладзіцы,—
Баба закрычала,
— Што у гэтай кніжаніцы
Сёньня прачытала.
Усю ночку аж да сьвету
Займа прасядзела
І чытаючы „Араты“
Спаць не захацела.
Так, сястрыцы, маладыцы
І усе дзяўчаты,
Падпішэцеся, глядзеце,
Ды на наш „Араты“.

**В. Жызьнеўскі.**



## Маладняк.

### (Маладая гвардыя).

Сьмялей! Зару спаткаем,
Сябры, у барацьбе!
Карцечай і штыкамі
Праб'ём мы шлях сабе.
Шчыльней рады! На новы шлях!
Вышэй юнацкі вольны сьцяг;
Мы—маладняк бунтоўны
рабочых і сялян.
Мы паднявольнай працы
Спазналі ўсе прыгон
І радасьці ў юнацтве
Ня ведалі мы дзён:
Ў пакуце вечнай несьлі мы
На душах цемры кайданы;
Мы—маладняк бунтоўны
Рабочых і сялян.
Пад гоман звонкай сталі
Лілі мы пот і кроў
І шчасьце мы кавалі
Для банды гандляроў.
Але прыгон, што нас душыў,
Барацьбітамі нас зрабіў;
Мы—маладняк бунтоўны
Рабочых і сялян.
На бой з гвалтаўнікамі,
Сябры, за намі ў сьлед!
Мазольнымі рукамі
Мы створым новы сьвет.
За намі ўсе! Гартуйце сталь!
Сьмялей у сонечную даль!
Ў бой, маладняк бунтоўны
Рабочых і сялян!

## З старога—новае.

(*В. Старыца, Грэскага раёну*).

Комсамольцы—хлопцы энэргічныя, пагаварылі крыху і пастанавілі дагаварыцца з сельсаветам наладзіць некалькі „суботнікаў“ і з старое школы зрабіць для вёскі клюб, а школу пабудаваць новую.

Сказана—зроблена.

Ня шмат прашло часу, і сяляне перасталі паранейшаму глядзець на школу, бо яны ня шукаюць ужо сабе будыніны ў час свайго сходу, а сьмела ідуць у клюб, збудаваны комсамольскімі рукамі.

У вольны час моладзь ня йдзе на ранейшыя пагулянкі, а ў клюб—на спэктакль.

Сяляне, бачачы, што ячэйка зрабіла вялікую карысьць для ўсяе вёскі, глядзяць на комсамольцаў, як на будаўнікоў лепшага.

**Кучынскі.**

## І мы не адстаем ад жыцьця.

(*В. Лускава, Меншчына*).

Да гэтага часу наша моладзь апрача пагулянак з скокамі да ўпаду ды „рэзьні па карку“—нічога больш й ня ведала.

Гэтак было, але зусім іншае зараз.

Вясковая моладзь пад кіраўніцтвам комсамольцаў у мінулую зіму адчыніла вячэрнюю школку, у якой як хлапцы, так і дзяўчаты абучаліся грамаце.

Пры школцы абсталявалі маленькую хату-чытальню, у якой старыя і малыя чытаюць кніжкі, часопісі і газэты. Кніжкі бярэм у бібліотэцы м-ка Беларучы. Прачытаўшы—аддаем іх у бібліотэку, а замест прачытаных бярэм навейшыя.

Выпісваем больш дзесятка экзэмпляраў свае сялянскае часопісі „Малады Араты“.

**Прац.**

## Поп адрокся ад свае профэсіі.

(*В. Горазна, Калініншчына*).

На адным з нашых сходаў поп нашай царквы заявіў: „Я служыць вам больш ня буду. Досыць муціць, досыць агітаваць за тое, чаго быць ня можа. Таварышы! забудзьце пра ўсё тое, што я вам гаварыў. Я хачу жыць і працаваць так, як жывеце і працуеце вы!“ Старыя пусьцілі сьлязу, а моладзь яго прывітала гучнымі воплескамі.

**Л. Кастырэнка.**

## Драмгурток.

(*В. Рудзенск, Сьмілавіцкі раён*).

У нашай вёсцы маецца драмгурток, які кожны дзень адпачынку, кожнае сьвята наладжвае вечары, спэктаклі, концэрты, розныя гульні і іншае. На вечары ходзіць ня толькі моладзь, а й старыя сяляне, якія, пабыўшы ў клюбе, забываюцца пра царкву, пра ўсё старое і хворае.

**Эця.**

## Моладзь заварушылася.

(*В. Тышча, Расьнянскага раёну*).

У в. Тышча, якая раскідана па хутарох, культурнага жыцьця ня было аж да гэтага часу, пакуль сюды ня прыехала чырвоная настаўніца Астанькові̌ч. Зараз там організаваўся гурток „Сяброў газэты“, які ставіць баявым сваім заданьнем агітаваць за выпіску „МаладогаАратага“ і за вярбоўку для яго корэспондэнтаў.

Выпускаецца насьценная газэта.

Моладзь часта наладжвае свае агульныя сходы, на якія прыходзіць і сялянства.

Т. Астанькові̌ч шмат працуе сярод дзяўчат, прыцягвае іх да ўсялякай культурнай работы.

**М. Кузьма.**

## Жанчыны за працай.

(*Саўхоз „Молат“, Пухавіцкага р., Меншчына*).

Комсамольская ячэйка саўхозу „Молат“ у апошнія часы разьвярнула шырокую працу сярод жанчын. У красавіку яна правяла тры жаночыя сходы і дзьве гутаркі, на якіх разгледжаны гэткія пытаньні: *Жыцьцё жанчыны даўней і цяпер, жыцьцё правадыра працоуных т. Леніна, яго дзейнасьць* і інш.

На апошнім сходзе жанчыны ўхвалілі, каб агульныя сходы склікаць кожны тыдзень у пятніцу. Вынесена таксама пастанова аб абавязковым удзеле ў комсамольскіх гуртках і іх працы.

Гэтак патроху прачынаецца наша працоўная жанчына, уцягваецца ў будаваньне новага жыцьця і паступова выходзіць на вольны, сьветлы, паказаны Ільлічом шлях.

**Жанчына.**

# Фізычнае выхаваньне і сялянская моладзь.

Дзякуючы слабасьці культурнае працы на вёсцы сялянская моладзь, ня знаючы куды прылажыць сваю энэргію, дурэе, гуляе і г. д.

Фізычнае выхаваньне можа і павінна накіраваць энэргію моладзі ў патрэбным кірунку.

Комсамол першы ўзяўся за збудаваньне пролетарскага фізычнага выхаваньня. Ужо ў 1919 годзе пачынаюць узьнікаць пад кіраўніцтвам комсамолу пролетарскія організацыі фызычнага выхаваньня. На першых часох свае працы ім прыходзілася весьці надта вялікую барацьбу з дробна-буржуазнай моладзьдзю, якая будавала свае спорт-гурткі, імкнулася як мага перашкодзіць уцягненьню пролетарскай моладзі ў організацыі фізычнага выхаваньня. У гэтай барацьбе комсамол перамог.

Вялікая праца ўжо праведзена і праводзіцца комсамолам у кірунку фізычнага выхаваньня. У горадзе пры фабрыках, заводах, пры профсаюзах і комсамольскіх клюбах маюцца гурткі па фізычнаму выхаваньню. У школы, як абавязковы прадмет, уведзена фізычнае выхаваньне. Аднак, вёску фізычнае выхаваньне зусім слаба ахапіла, рэдка ёсьць такія вёскі, дзе маюцца гурткі фізвыху, ды і тыя гурткі, якія ёсьць, працуюць з горам папалам дзякуючы адсутнасьці інструктароў, кіраваньня ды й проста дзякуючы няўменьню ўзяцца за справу. Звычайна вясковыя гурткі фізвыху з самага пачатку організацыі бяруцца за цяжкія і шкодныя практыкаваньні. Дастаюць хлапцы цяжкія гіры, а то і проста шпалу і давай падымаць, падкідваць—хто вышэй, хто лепш.

Зразумела, што гэткае фізычнае выхаваньне ня толькі карысьці ня прыносіць, але прыносіць вялікую шкоду.

### Як організаваць гурток фізычнага выхаваньня.

У бсльшасьці вёсак нойдзецца хлопец, які пабыў на камандных курсах, у вучэбнай школе, а то проста на якіх - небудзь курсах спорту. Такога хлопца і патрэбна запрасіць для кіраваньня.

Шмат якія нашы вясковыя ячэйкі маюць гарадзкіх шэфаў. Гарадзкія шэфы, профсаюзы ці комсамол маюць свае гурткі фізычнага выхаваньня.

Мэтаю гэтых шэфаў зьяўляецца выезд з групамі фізычных выхаванцаў у вёску, ладзіць там выступленьні. Па магчымасьці шэф павінен і матэрыяльна дапамагаць гурткам фізвыху, купляючы для іх літаратуру па фізычнаму выхаваньню, а часам і спортыўныя прылады.

Уцягнуць вясковую дзяўчыну ў фізычнае выхаваньне—вось галоўная мэта комсамольскае ячэйкі.

Самая цяжкая справа—гэта ўцягнуць вясковую дзяўчыну ў гурток фізычнага выхаваньня; тут вельмі многа перашкод і супярэчаньняў з боку старых і сарамлівасьць самае дзяўчыны. Зразу за ўцягненьне сялянскай дзяўчыны ў гурткі фізвыху і не патрэбна брацца. Тут патрэбна дзейнічаць паступова, знаёмячы дзяўчыну з значэньнем і паважнасьцю фізычнага выхаваньня.

Дзяржава клапоціцца аб здароўі працоўных. Пры раённых выканаўчых комітэтах організуюцца раённыя саветы фізычнага выхаваньня, пры сельрадах правядзеньне фізычнага выхаваньня ўскладаецца на санітарныя комісіі. Комсамольцы павінны дапамагаць у працы разьвіцця фізычнага выхаваньня сярод сялянскай моладзі.

Ц—н.

---

Ходзіць Янка, ходзіць хмуры,
Абзываюць цюхцялём.
А займаўся-б фізкультурай,
Дык ня быў-бы як цялё.



Эх, Мікітка, хлопец спрытны,
Ён заводзіць новы лад.
Ой ды, хлопцы, як ня брыдка,—
Дайце ўтворым спортатрад!

# ШТО ЧЫТАЦЬ

## па сельскай гаспадарцы?

Комсамольцы на вёсцы—гэта сыны сялян, сыны землягобаў, сыны гаспадароў. Комсамольцы, як сыны зямлі, мусяць самі быць першымі, прыкладнымі і лепшымі землягобамі і гаспадарамі.

Комсамольцам мала толькі ўмець касіць, баранаваць, сеяць і араць, а трэба вывучыць сельскую гаспадарку ўсебакова.




Трэба гэтак азнаёміцца з кожнай паасобнай сельска-гаспадарчай працай, каб падыходзіць да яе з пэўнымі агрономічнымі ведамі, каб ведаць сэнс і карысьць гэтай працы.

Для таго, каб дарослыя гаспадары мелі пашану да комсамольцаў ды ішлі да іх за парадай па гаспадарчых справах, комсамольцы павінны ўсё ведаць і на кожнае запытаньне старых даваць ясны, зразумелы і добры, абгрунтованы адказ.

Вясковаму комсамольцу трэба пазнаёміцца з глебай, гэта значыць, з яе складам, з яе ўрадлівасьцю, з прычынамі ўрадлівасьці ці неўрадлівасьці, з спосабамі павялічэньня ўрадлівасьці, з спосабамі апрацоўкі глебы, з матэрыяламі для ўгнаеньня глебы, з прыладамі для апрацоўкі глебы і г. д.

Вясковы комсамолец мусіць ведаць і аб насеньні—гатункі яго, спосабы ачысткі, гадаваньня і збору яго, машыны для ачасткі і сартыроўкі і г. д.

Мусіць дакладна пазнаёміцца з плодазьменам, з лугаводзтвам, з гадоўляй свойскай жывёлы, з пчалярствам, з птушніцтвам, з пастаноўкай сельска-гаспадарчай коопэрацыі, з законамі аб сельска-гаспадарчым падатку і землябудаўніцтве. Адным словам, комсамольцу трэба гэтаму ўсяму навучыцца. Адкуль-жа і як навучыцца?

З аднаго боку трэба выкарыстоўваць кожны прыезд агронома і па магчымасьці выпытваць ад яго ўсё патрэбнае.

А з другога боку—трэба чытаць кнігі па сельскай гаспадарцы: чытаць, чытаць і чытаць!

Толькі праз навуку, праз кнігу комсамольцы стануць адукаванымі сельскімі гаспадарамі.

Праўда, што на вёсцы бракуе кніг і часамруднавата іх дастаць, ды да таго і грошы каштуе. Але цяпер, калі ўся ўвага Комуністычнай партыі і Савецкай улады зьвернута на вёску, дык з кожным месяцам і тыднем усё болей друкуецца кніжак для вёскі і па таннай цане.

Да гэтага часу для вёскі па сельска-гаспадарчых пытаньнях падрукаваны наступныя кнігі:

1. Агроном Кацаураў. Угнаеньне глебы. Цана 8 к.
2. " " Аб насеньні. " 15 "
3. " " Дагляд за пасевамі " 8 "
4. " " Аб плодазьмене " 6 "
5. " " Як жыве і прарастае насеньне " 10 "
6. " " Жыта і пшаніца. " 10 "
7. " " Ячмень, авёс, проса, грэчка, кукуруза " 20 "
8. " " Бульба і карань-плоды . " 10 "
9. " " Конь (гутарка аб тым як купляць і гадаваць коней). Цана 29 "
10. Агроном Кацаураў. Быдла (гутарка аб тым, як гадаваць быдла). Цана . . 15 "
11. Профэсар Штэйнбэрг. Чым і як угнойваць гарод, калі гною і мінэральных тукаў не хапае. Цана . . . . 8 "
12. Шыпіла. Што кожны селянін павінен ведаць аб коопэрацыі. Цана . . 12 "
13. Вэтэрынар Серада. Сьвіньня—скарбніца гаспадара. Цана . . . . . 3 "

Зразумела, што вясковаму комсамольцу нельга адразу купіць усе гэтыя кніжкі, хаця паасобку яны і недарагія. Трэба паступова купляць адну за аднэй, і праз нейкі час у кожнага комсамольца створыцца маленькая бібліотэчка па сельскай гаспадарцы.




Шмат кніжок па сельскай гаспадарцы друкуецца і рыхтуецца да друку і неўзабаве выйдуць у продаж. Комсамольцы павінны сачыць па газэтах і часопісях, дзе абвяшчаецца аб выхадзе ў сьвет новых кніжок, і паступова купляць новыя кнігі, прасіць шэфаў, каб прывозілі, бо ў хаце-чытальні кнігі павінны быць абавязкова.

Аб кніжках прыгожага пісьменства пагаворым у чарговым № „Маладога Аратага“.

**Янка Цві-віч.**



# Вясковыя насьценныя газэты.

## „Факел Ленінізму“.

*(В. Быстрыца, Капыльскі раён).*

Наша насьценная газэта, якая завецца „Факел Ленінізму“, выходзіць 1 раз у месяц.

Першы нумар быў вельмі слабенькі. Другі быў крышку лепшы, а трэці нумар і зусім добры.

Газэту выдаюць вясковыя комсамольцы разам з настаўнікам.

Сялянства „Факелам Ленінізму“ досыць цікавіцца: чытае, піша, добра адзываецца аб ім.

**Юнкор.**

## „Думкі Селяніна“.

*(Турэц, Сьмілавіцкі раён).*

— Чаго гэта яны там піхаюцца?..

— А чэрці іх ведаюць!—гэта чулася гутарка двох сялян, ідучы па вуліцы.

— Чаго гэта вы тут стаўпіліся?

— Што!? Ці ты ня бачыш, што мы чытаем насьценную газэту?

Тымчасам зьбіралася ўсё больш і больш сялян.

Настаўнік школы, Даніла, вышаў з клясы і ўзяўся ў голас чытаць першы нумар газэты „Думы селяніна“. Усе прыціхлі. Уважліва слухаюць кожнае слоўца.

Пасьля чыткі сяляне засталіся вельмі здаволенымі, і казалі: у другі нумар напішу і я... і я... і я!

Зараз рыхтуемся да выпуску чарговага нумару.

**Селянін.**

## Наша насьценная газэта.

*(Стара-Барысаў).*

Выпусьціла Стара-Барысаўская комсамольская ячэйка 12 нумароў вуснай газэты, навучылася газэтнай справе і зараз замяніла вусную—насьценнай.

Ужо вышлі 4 нумары. Формат газэты: $1^1/_4$ аршыны ўшыркі і 3 аршыны ў даўжыню.

З боку мастацкага газэта таксама нішто сабе. Кожны допіс мае малюнак.

Загалоўкі малююцца да выпуску кожнага нумару.

Усе сьценкоры організаваны ў корэспондэнцкі гурток.

**М. Гаеўскі.**

# Водгукі аб „Маладым Аратым.“

## „Малады Араты“—часопісь наша.

*(Вёска Крывалківі, Случчына).*

Яшчэ ўзімку мы прачыталі на старонцы аднаго нумару газэты „Сав. Беларусь“ аб тым, што ранейшая газэта „Малады Араты“ будзе выходзіць 2 разы ў месяц, як *часопісь* сялянскай моладзі. Дужа абрадаваліся, папрасілі ў бацькоў па 15 капеек і выпісалі больш дзесятка экзэмпляраў „Маладога Аратага“.

Першы нумар атрымалі ў пачатку красавіка.

Пасьля заняткаў з захапленьнем чыталі сваю часопісь цэлых 2 гадзіны.

Вучні вельмі ўважліва слухалі кожную заметку.

Вершы зараз-жа ўзяліся вывучваць напамяць, каб потым прадэклямаваць дзе-небудзь на вечары. Як чыталі апавяданьне „Заработак“—многія падрывалі бакі ад сьмеху.

Ідучы з школкі да хаты, адны вучні пялі частушкі, якія вывучылі ў „Аратым“, а другія дэклямавалі:

„Не вялікая тут страта, падпішыся на „Араты“... і гэтак далей.

Калі потым пачалі пытацца адзін у другога:

— Ну, як табе „Араты?“

— Ну! Спадабаўся „Малады?“, так выявілася, што часопісь, як кажуць, на „яць“—толькі адзін недахоп, гэта тое, што малавата мастацкага матэрыялу; зусім няма матэрыялу для вясковага тэатру. Мы пэўны, што ў далейшым наша часопісь узбагаціцца такім матэрыялам і заробіць вялікую пашану ад вясковай моладзі.

**Рыгор.**

## Мы таксама не адстаем.

*(Навасёлкаўская 7-годка, Пухавіцкага раёну, Меншчына).*

За апошнія часы характэрна выдзелілася цяга нашых вучняў да комсамольскіх часопісяй і газэт. З выхадам часопісі „Малады Араты“ больш як 20 нашых вучняў падпісалася на яе.

Ужо атрымалі пару першых нумароў, якімі засталіся здаволенымі.

**Зьм.**

## „Малады Араты“ падабаецца і старым сялянам.

*(Дукора, Меншчына).*

На днях у нашу вёску прыяжджаў супрацоўнік „Маладога Аратага“ і прывёз некалькі штук часопісі.

Спачатку моладзь сабралася і прынялася разглядаць нумар, а потым папрыходзілі і сяляне старыя...

— Ну, чаго там глядзець на яго, пачытай хто-небудзь!— прагаварыў адзін селянін...

Узяліся чытаць.

Пасьля чыткі—запытаньні супрацоўніку рэдакцыі:

— А колькі каштуе часопісь?

— Дзе яе можна выпісаць?

Супрацоўнік усё добра растлумачыў і высьветліў усе заданьні „Маладога Аратага“.

Многія зараз-жа давалі грошы на выпіску, старыя сяляне казалі:

— „Няпрыменна выпішу свайму Кузьму гэтую кніжку!“.

**Цімка.**

## „Малады Араты“.

„Малады Араты“, які раней выходзіў газэтай з дадаткам-брошуркай час-ад-часу, цяпер перарабіўся ў пастаянны журнал, які выходзіць 2 разы ў месяц.

„Малады Араты“, як сваім выглядам, так і зьместам робіць добрае ўражаньне. Як артыкулы палітычнага характару, таксама і прыгожае пісьменства (вершы, апавяданьні) популярны і падходзяць для вясковага чытача.

Добра дапасован і аддзел „На сваёй гаспадарцы“, якраз да сэзону. Але на наш погляд, яго трэба было павялічыць. Таксама варта было павялічыць і аддзел „Горад“, каб вясковы комсамолец такім чынам быў цалкам у курсе працы і жыцьця гарадзкога комсамольца-рабочага.

У журнале добрыя клішэ, што аздабляе кніжку.

Мы пэўны, што „Малады Араты“ абагаціць бібліотэчку кожнай хаты-чытальні на вёсцы і зробіцца сяўбітом новага сьветлага жыцьця сярод беларускай сялянскай моладзі.

**„Савецкая Беларусь“ № 80 (1379)**

**Кожная хата-чытальня, кожны комсамолец, кожны малады земляроб павінен падпісацца на „МАЛАДЫ АРАТЫ“.**

# Што пісаць у „Малады Араты“.

Рэдакцыя вельмі часта атрымлівае лісты ад таварышоў-дапішчыкаў, якія просяць, каб даць раду аб чым пісаць і як пісаць.

Бязумоўна, гэта важнае пытаньне. У нас цяпер, асабліва цяпер, даволі выпукла стаіць грамадзянская праца ў вёсцы: разьвіцьцё культурна-асьветнай работы ў ячэйках партыі і комсамолу, у хаце-чытальні; узмацняюцца вясковыя школы, арганізуюцца сельска-гаспадарчыя гурткі, гурткі фізычнага выхаваньня і т. д.

Поруч з гэтым вёска цяпер праводзіць цэлы шэраг новых рэволюцыйных сьвят, шмат розных кампаній, як „Дзень лесу“ і інш.

Як разьвіваецца гэта праца ў вёсцы, якія сустракаюцца супярэчнасьці—вось аб гэтым, бязумоўна, цікава пісаць.

Толькі тут трэба некалькі слоў сказаць, як гэтыя факты перадаваць, іначай кажучы, як пісаць.

„Малады Араты“—журнал. Як вы ўжо самі бачыце, допісаў мы друкуем ня шмат, ня гледзячы на тое, што атрымліваем іх якраз наадварот,—даволі многа. Але большасьцю яны не зьмяшчаюцца. Чаму? Яны амаль што ўсе носяць характар, як-бы сказаць, агульны і зусім няцікавы. Некаторыя таварышы пішуць так: „у нашай вёсцы пры ўдзеле настаўніка адбыўся спэктакль, перад спэктаклем быў даклад“.

Заметка нічога не гаворыць. Тут трэба не прамінуць і сказаць, якое ўражаньне зрабіў спэктакль на сялян, як слухалі даклад, ці былі пытаньні дакладчыку, якія пытаньні—адгэтуль будзе відаць, якая зацікаўленасьць сялянскай моладзі, сялян старых.

Даць апісаньне, як працуе хата-чытальня, не падыйсьці суха, а даць прыгожы мастацкі абразок, і ў „Маладым Аратым“ бязумоўна будзе з прыемнасьцю надрукаваны.

Тамсама хто піша песьні, вершы, частушкі—гэта, бясспрэчна, будзе друкавацца, бо „Малады Араты“ ставіць сваім заданьнем высьвятляць творчасьць моладзі. Апавяданьні, жарты можна пісаць. Толькі тут яшчэ адно маленькае слова: трэба старацца галоўным чынам ясна выказваць сваю думку, як кажуць, менш слоў, а больш справы. Вось гэта трэба мець нэ ўвазе. Ня страшна, што крышку нягладка, абы шчыра.

А што сялянская моладзь павінна пісаць у „Малады Араты“—гэта абавязкова, бо „Малады Араты“ журнал сялянскай моладзі.

---

## „Малады Араты“ адказвае на запытаньні вясковай моладзі.

*Запытаньне.* Каб падняць культуру на вёсцы, комсамольская ячэйка прымае ў лік сваіх сяброў моладзь з асьветаю. У бюро таксама выбіраюцца сябры інтэлігэнтнай сям'і. А моладзь няпісьменная, батракі і беднякі, павінны раней скончыць сямігодку чым, паступіць у шэрагі Л. К. С. М. Б. Быць сябрам бюро—і думаць ня прыходзіцца. Ці правільна гэта?

**Вясковы.**

*Адказ.* Вядома, што ячэйка робіць нядобра, калі яна трымае курс прыёму толькі вельмі сьвядомай моладзі і ня прымае бедняка й батрака, якія не маглі нідзе вучыцца.

Райком павінен растлумачыць ячэйцы, і яна ў сваю чаргу павінна ўявіць, што ў першую галаву ў комсамол прымаюцца батракі, беднякі й лепшыя, больш блізкія Л. К. С. М. Б, серадня кі.

Такая-ж лінія павінна быць узята ячэйкаю і па высоўваньню актыву—выбары бюро.

*Запытаньне.* Мы, піонэры в. Валіцкаўшчыны, выпісалі на свой атрад на цэлых 6 месяцаў 2 экзэмпляры „Маладога Аратага“, „Юного Строителя“, а атрымалі толькі 1 нумар „М. Ар.“.

Чаму гэта так?

**Піонэры.**

*Адказ.* Быў вялікі перапынак у выхадзе „Маладога Аратага“, як *газэты*, але з гэтага часу ён будзе выходзіць і пасылацца сваім падпісчыкам акуратна і своечасова.

За пасланыя вамі грошы будзеце атрымоўваць часопіс „М. Ар.“.

Газэтка „Юный Строитель“ больш выходзіць ня будзе. Замест яе раім выпісваць штомесячную часопіс „Беларускі Піонэр“.

*Запытаньне.* „Малады Араты“, адкажы, што рабіць такому хлапцу, які любіць комсамольскую організацыю, увесь аддаецца для выконваньня задач Л.К.С.М.Б., але бацька ня любіць свайго сына за гэта, не дае яму есьці і нават выганяе з хаты?

**Комсамолец Ф. С.**

*Адказ.* Пытаньне аб узаемаадносінах комсамольцаў з бацькамі стаіць востра ў многіх сяброў. Як уладзіць гэтую справу так, каб бацька не глядзеў коса на сына ці дачку, якія састаяць у комсамоле, ходзяць у ячэйку—іншы раз можна параіць наступнае: *папершае*, сябра Л.К.С.М.Б. павінен быць прыкладным работнікам па сваёй гаспадарцы. Калі гэтага дасягне комсамолец, то тады бацька ня будзе зваць яго „лодарам“ і пакіне крычаць за тое, што яго сын у радох К.С.М. *Падругое*, трэба ўпэўніваць свайго бацьку, схіляць яго на бок комсамолу, даказваючы яму вялікае выхаваўчае значэньне Л.К.С.М.Б.

*Запытаньне.* Калі ячэйка Л.К.С.М.Б. выдзеліла мяне корэспондэнткаю, так ці можна мне пісаць у „Малады Араты“ і ў іншыя комсамольскія цэнтральныя выданьні апроч таго, што я пішу ў сваю акруговую газэту?

**Яўгіня Вігура.**

*Адказ.* Кожны корэспондэнт, кожны пісьменны чалавек мае поўнае права пісаць ва ўсе газэты і часопісі, ня гледзячы на тое, ці яны цэнтральныя ці акруговыя.

*Запытаньне.* Калі пісаць у „Малады Ар.“, ці дасьць рэдакцыя грошай на паперу і на паштовыя маркі.

*Адказ.* За кожны надрукованы ў часопісі допіс рэдакцыя плаціць гонорар. Вясковым корэспондэнтам, вядома, па іх згодзе, рэдакцыя замест грошай пасылае літаратуру.

# Адгадай.

Пад рэдакцыяй **А. Круталевіча**.

*Задачка літар № 5.*

— о —
— в —
— ат —
— нды —
— о —

Замест рысак паставіць літары, каб паземныя радкі далі 5 слоў, а старчовыя (чытаючы зьверху ўніз)—прозьвішчы двох вялікіх людзей.

*Квадрат № 6.*

| | | |
|---|---|---|
| а | р | э |
| п | п | а |
| н | р | э |

Расставіць так літары, каб можна было прачытаць словы зьлева направа й зьверху ўніз.

*Задачка № 7.*

Цяпер мой сын маладзей за мяне ў тры разы, а пяць год назад ён быў маладзей за мяне ў чатыры разы.

Колькі яму год?

*Галоваломка № 8.*



У гэтай фігуры (з 35 сярнічак) перакласьці 4 сярнічкі так, каб атрымаліся тры квадраты.

*Загадка № 9.*

З літарай К мяне баяцца злачынцы,
з літарай П я дзьве аднаковыя рэчы.
Хто я?

**Прозьвішчы таварышоў, якія прышлюць правільныя адказы, будуць надрукаваны.**

# Паштовая скрынка.

**А. М.** *(Капыль)*—*„Разводзьце буракі“* перададзена ў акруговую газэту „Белар. Вёска“, а „Дзядзька Адамовіч“—у дзіцячую часопіс „Беларускі Піонэр“. Увесь іншы матэрыял скарыстаем.

**М. Гаеўскаму.** *(Стара-Барысаў)*—Няма цікавасьці друкаваць заметку аб організацыі гуртка „Бязбожнік“. Куды лепш было-б, каб ты нам напісаў аб працы гэтага гуртка, як глядзіць на яго сялянства, ці прысутнічае на занятках беспартыйная моладзь і іншае.

**Лідзі Кастырэнка.** *(Горазна)*—Тваю заметку зьмяшчаем у гэтым нумары нашай часопісі. Ты пішаш добра. Пішы аб грамадзянскай працы дзяўчат, аб жыцьці вашай комсамольскай ячэйкі і інш.

**Падарожнаму.** *(Калініншчына)*—Нельга зьмяшчаць таго ў маі, што рабілася ў кастрычніку. Старайся пасылаць матэрыялы своечасова.

А. Гуліс *(Янушкевічы)*, Яўгіня Арлоўская *(Клінок)*, Анісаў Майсей *(Полаччына)*, Уласавец *(Дзехцяроўка)*, С. Апанасаў *(Даўгавічы)*, Бурка Іван *(Пухавічы)*, Чарнякоў *(Гарадзецк)*, Гарэльчык П. *(Цытва)*, Паваротны П. *(Дукора)*, Ал. Фядосцаў *(Балотня)*, Будзько Ян *(Случчына)*—Вам рэдакцыя выпісала на май і чэрвень м-ц „Маладыя Араты“ за кошт ганарару.

*Кавалевічу Ўладзіміру*—твой верш перадалі ў часопісь „Беларускі Піонэр“.

*Апанас Атава* (Случчына). Твой верш „Царкоўны падарак“ перадалі ў газэту „Беларуская Вёска“.

*Мікола Каляда*—твой верш „Селяніну“ ня пойдзе Ты ў сваім вершы кажаш селяніну тое, што ён ведае добра. Напрыклад:

„ елянін! Ведай, што гэтай парою трэба дужа і цяжка працаваць“, і гэту думку ты разьвіваеш і далей. Ты лепш-бы пісаў, якую карысьць ад працы ён атрымлівае, як лепш паставіць працу, каб лягчэй працаваць і г. д. Пішы.

*Я. Кароткі*—„Веснавое“ абразок, каб не сьпазьніўся, надрукавалі-б. Пішы яшчэ; як відаць, такія малюнкі табе даюцца лёгка.

*Каршэлю* -твой сцэнічны абразок „Піліпавы радзіны“ занадта ўжо маленькі; калі-б яго ставіць на сцэне, дык заняў-бы ня больш, як тры хвіліны. Вось дзеля гэтага ўжо ня варта друкаваць, а падругое—ён слаба апрацованы.

*Багушэвічу* (Барысаўшчына) —Твае вершы „За навуку“, „Годы быць нам смутнымі, нуднымі“—перадалі ў журнал „Беларускі Піонэр“.

*Янка Гай*—твой верш „Касавіца“ надрукуем, як пачнецца праца на сенажаці

*Малюкевічу, Лістрату, Грушу, Пятроўскаму*—рэдакцыя ня будзе друкаваць вашы творы, затым што няма адрасоў.

*А. Сокалу*—вершы на расійскай мове ў „Маладым Аратым“ ня друкуюцца, пішы пабеларуску.

*Мікола Невядомы.* „Да роднай мовы“ верш друкаваць ня будзем. Ты жывеш у Менску, дык зайдзі ў рэдакцыю, пагутарым.

*Уладзімеру*—ты, брат, па абмылцы прыслаў толькі канец вершу, прышлеш пачатак, дык надрукуем.

*Каржэлю Янку* твой верш „Вечарынка“ надрукуем у чарговым нумары, верш „Куцьця“ цяпер друкаваць неяк не да рэчы, пачакаем да так званых „калядъ“.

Рэдактары: { **Самахвалаў.**
**Александровіч.**

1-я Дзярж. друк. Зак. № 3189—(4500). Галоўлітбел № 9234.

10078

# Усебеларускі Зьезд Саветаў.

У Менску адбыўся Ўсебеларускі Зьезд Саветаў—вышэйшая ўлада Беларускай Рэспублікі.

Зьезд у сваёй рэзолюцыі, якую прыняў па справаздачы Ураду БССР адзначыў, што правільнай была праца Ўраду ў адносінах *да пытаньня дапамогі сельскай гаспадарцы, яго мерапрыемствы да стварэньня фонду для малазямельных і безьзямельных сялян, пашырэньне і ўскарэньне землябудаўнічых работ*, і таксама тое, *што была паменшана цана на лес, які адпускаецца сялянам.*

Зьезд адзначыў, што і надалей трэба ставіць галоўнай задачай *падняцьце сялянскай гаспадаркі і ўзрост яе гандлёвасьці.*

Зьезд даручыў занава абранаму ЦВК правесьці ў жыцьцё ўсе вырашаныя ім пытаньні.

Зьезд выбраў правіцельства—Цэнтральны Выканаўчы Комітэт,—старшынёй ЦВК выбраны *А. Г. Чарвякоў.*

Ад рабочай і сялянскай моладзі ў ЦВК выбраны наступныя таварышы:

*А. Самахвалаў* (сакратар ЦК ЛКСМБ)—членамі, *І. Мэрынгоў* (комсамолец-рабочы гор. Менску), *Казенцоў* (вясковы комсамолец Мазырскай Акругі), *Ратнэр* (Бабруйскі комсамолец), *Сівохін* (комсамолец Віцебшчыны)—кандыдатамі.

# У Заходняй Беларусі.

У той час, калі ў нас, у Савецкай Беларусі, рабочыя і сяляне стаяць на чале свае дзяржавы, кіруюць ёю, калі рабочыя і сяляне самі сабе будуюць новае жыцьцё—там, у Заходняй Беларусі:

*Арышты Беларускіх сялян, пыткі.*

Цяпер праходзе шырокая хваля арыштаў у Сьвінцянскім, Вілейскім і Горадзенскім паветах.

Турмы ў *Горадне, Слоніме, Сьвенцянах і Лёдзе* перапоўнены арыштаванымі.

Польскі ўрад падгатоўлівае цэлы рад процэсаў супроць беларускіх сялян.

Паны ставяць абвінавачваньне сялянам, што яны прымалі ўдзел у партызанскіх атрадах, што ў сялян было відаць імкненьне да Савецкай Беларусі.

Белы тэрор усё больш пашыраецца. Зямля ад сялян адбіраецца. Насяляюць розных правакатараў, шпікаў і інш. панкоў і палупанкоў і даюць ім зямлі на 30-40 дзесяцін на кожнага.

Паны стараюцца, як толькі мага задушыць роднае слова беларуса-селяніна і рабочага.

Гвалты, нячуваныя ў гісторыі чалавецтва зьдзекі над працоўнымі—сёньня ў Заходняй Беларусі, дзе гаспадарыць беларускім працоўным народам—вяльможнае панства.

# Дзень друку.

15 мая—дзень друку. Друк гэта адна з форм дапамогі ў будаваньні новага жыцьця.

Дзень друку ўстаноўлены яшчэ ў 1914 годзе бальшавіцкаю газетай „Правда", для таго, каб у гэты дзень шырока растлумачыць працоўным задачы і мэты бальшавіцкіх газэт, і наогул друку.

Бальшавіцкі друк у тыя часы, калі панавала царскае прыгнечаньне, ня толькі чытаўся рабочымі, але яго ствaралі самі-ж рабочыя.

Цяпер, пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, друк грае асаблівую ролю,—цяпер у друку пачалі прымаць удзел самі-ж рабочыя і сяляне.

Калі царская ўлада трымала масы ў цемры, няпісьменнасьці, Савецкая ўлада ўзмацняе сьвядомасьць, павялічае граматнасьць, прыцягвае сялян да дзяржаўнага будаўніцтва.

Што рабочыя і сяляне цяпер прымаюць вялікі ўдзел у разьвіцьці нашага друку мы можам пераканацца, успомніўшы толькі той рост і рух селькораў і рабкораў.

У дзень друку мы павінны зьвярнуць вялікую ўвагу на гэту справу.

Возьмем мы хоць-бы нашы беларускія ўмовы. Па царскім ражыме ў нас выходзіла адна газэтка раз у тыдзень і тая конфіскавалася.

Цяпер дзякуючы Савецкай Уладзе мы маем шмат газэт, журналаў на беларускай мове.

А вазьмеце вы Заходнюю Беларусь, там паны беларускую газэту душаць, як толькі мага,—конфіскацыя за конфіскацыяй.

Раней мы ня мелі свае ўласнае газэты для моладзі, цяпер мы—вясковая і гарадзкая моладзь—самі творым, распаўсюджваем і падтрымліваем свой юнацкі друк.

У дзень друку, цяпер, мы павінны паставіць сабе пытаньне:

— Калі чытае газэты толькі частка сялян, то трэба каб кожны селянін чытаў газэту, цікавіўся ёю.

Чым больш газэт вы знойдзеце ў вёсцы, тым хутчэй гэта вёска збудуе сабе новае жыцьцё.

Моладзь—павінна быць супрацоўнікам, чытачом юнацкага друку, павінна старацца як больш распаўсюдзіць друкаванае слова ў нашай новай вёсцы.

Комсамольская Беларусь—павінна чытаць—комсамольскія выданьні.

## MŁODZIEŻY POLSKA!

**Prenumeruj i jaknajszerzej rozpowszechniaj**

GAZETĘ



## „GWIAZDĘ MŁODZIEŻY“

Prenumerata miesięczna wynosi zaledwie **10 KOP.**

---

## דער „יונגער-ארבעטער“

וואלנטליכער ארגאן פון צענטראל-קאמיטעט
פון לעניניש קאמ. יוגונט-פארבאנד אין ווייסרוסלאנד.

**באשרייבט** דעם לעבן און ארבעט
פון דער אידישער הארעפאשנער יוגנט.

**ווארפט ליכט**
אין דער אפגעשטאנענער שטעטל.
האט א סאך קארעספאדענטן.

**שרייב** אם אויס! לייען. שרייב **אין אים!**

---

**ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА**

НА ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

## „МАЛАДЫ АРАТЫ“

**Орган ЦК ЛКСМБ.**

Часопісь выходзіць два разы ў месяц.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ: на 1 м-ц—15 кап.**

**ПАДПІСКУ ПАСЫЛАЦЬ ПА АДРАСУ:**

Менск, Савецкая 63. Таксама прымаюць падпіску і ўсе паштовыя аддзяленьні.

---

**Чытайце і распаўсюджвайце кіраўнічы орган Цэнтральнага Комітэту Комсамолу Беларусі**

## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

**газэта выходзіць два разы ў тыдзень.**

Падпісная цана 22 кап. ў месяц.

**Сваечасовая падпіска**

забясьпечвае сваечасовую дастаўку.

**Падпіска прымаецца па ўсіх аддзяленьнях Бел. Дзярж. Выдавецтва.**

---

Прымаецца падпіска на штомесячную дзіцячую часопісь

## Беларускі Піонэр

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

на 1 месяц (1 нумар)—20 кап.

на 3 месяца (2 нумар)—60 кап. і г. д.

**Дармова часопісь больш пасылацца ня будзе.**

**Падпіску прымае Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**